# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м.
Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Серада, 12-га красавіка 1922 г. № 11 (36).

### Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва
## „БАЦЬКАЎШЧЫНА“,

закладываючы ў м. Дзьвінску Беларускую Бібліятэку-Чытальню, зварочваецца да ўсіх беларускіх вучоных, пісьменьнікаў і дзеячоў з просьбай не адмовіць у ласкавай прысылцы сваіх твораў і друкаваных кніжак, а таксама партрэтаў і аўтаграфаў для памяненай бібліятэкі.

Кошт кніжак і перасылкі, па жаданьню перасылаючага, будзе зьвернуты Таварыствам з падзякай.

**Праўленьне Таварыства.**

Адрас: Latvija, Daugavpils, Bulvarnaja, 24. Baltkrieva Biblioteka.

## *Віншуем нашых чытачоў з Вялікаднем!*

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Вялікае вясеньняе сьвята, сьвята уваскрэшаньня Таго, Хто навучаў людзей любіць бліжняга свайго, як самога сябе, Хто жыцьцё аддаў на Гальгофе за ідэю сваю, ёсьць сьвята вясны, радасьці, надзеі. Збудзіўшаяся пасьля зімовага сну прырода вітае нас пачаўшымі распускацца вербамі, нясьмела выглянуўшыя з пад сьнегу пралескі — гэтыя першыя вестнікі вясны — сьмяюцца да нас сінім бліскам радасьці, вецер з палёў нясе пах аслабаніўшайся ад зімовых путаў ворнай зямлі... З новай вясной у душы будзіцца новае хаценьне жыць, у жылах родзіцца моц і жаданьне працы. А калі ў Вялікую Ноч зазьвіняць званы і паляціць з вусн у вусны радасны кліч: алелюя! Хрыстос уваскрос! — сэрца агартае нейкая бязмерная любась і здаецца, што кожны табе брат, і хочацца кожнага прыціснуць да грудзей і разам цешыцца вялікай навіной: „Хрыстос уваскрос!“...

Аднак у шале барацьбы, у дзікім неўгамонным шале панаваньня і зьдзеку над падняволеным сьвятыя запавядзі любасьці забыліся, або кінуліся на торжышча, дзе нясумленыя людзі гандлююць імі, прыкрываючы сьвятым імем благі твар свае спарахнеўшай душы, — але прыйдзе час, калі зазьвініць магутны звон справядлівасьці і спалоханыя ўпадуць на зямлю ашуканцы-гандляры душ.

І хаця над нашай зямелькай, аблітай крывёй і сьлязьмі пакрыўджаных, плыве, як туман, стогн многапакутнага народу, хаця ворагі хочуць кінуць нас у гроб і прыціснуць вялізнай каменнай глыбай, — мы ведаем, што прыдзе час, калі з многамільённых вуснаў паплыве радасны кліч уваскрашэньня, калі цяжкая каменная глыба з шумам адваліцца вон і разсыплецца ў пыл.

А гэты Вялікдзень надойдзе мо' ўжо хутка...

Ф. А.

# Генуя і Вільня.

Неяк самі сабой лучацца гэтыя два імёны, углядаючыся на палажэньне справы „wcielenia“ Віленшчыны ў зьвязку з генуэскай канфэрэнцыяй.

Ня гледзячы на гістэрычныя клікі радасьці польскіх яўных і ўкрытых нацыяналістаў, „wcielenie“ ўсё яшчэ не праведзена ў жыцьцё. Ждалі яго на тым тыдні; ўжо мястовая дума на'т у зелень пачала прыбірацца, а „інародцам“ быў дадзены строгі наказ: сабрацца на катэдральным пляцу і „выяўляць сваю радасьць“... Ды разам павеяў з Варшавы нейкі новы вецер, і, як піша „найбольш опозыцыйная“ газэта „Rzeczpospolita“, „wcielenie“ адложана на невядомы час.

Тлумачаньні газэт, чаму гэта зрабілася, былі розныя, — але ніводнае з іх не здаволівае рэдакцыю органу п. Падэрэўскага. Не здаволіваюць яны і нікога з палітычна мысьлячых людзей, бо запраўднае прычыны адкладу трэ' шукаць у нечым іншым.

Вось-жа, нам і здаецца, што яна — гэная праўдзівая прычына зьвязана з генуэскай канфэрэнцыяй. І даволі прадставіць сабе некаторыя мамэнты ў разьвіцьці віленскага пытаньня, каб гэта ўцяміць.

Перш-наперш пытаньне аб Віленшчыне — гэта толькі частка пытаньня аб усходніх граніцах Польшчы наагул. Граніцы гэныя былі ўстаноўлены Лігай Нацыяй: яны выведзены па так-званай лініі Керзона, якая прырэзала да Польшчы адно толькі тры беларускія паветы Горадзеншчыны — Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі. Рыскі мір перачыркнуў гэту пастанову: Савецкая Расея аддала палякам усю Заходнюю Беларусь (Горадзеншчыну, Навагрудчыну, Піншчыну і так-званы „Віленскі калідор“), а рэшту Віленшчыны з местам Вільняй здабыў для Польшчы аружнай сілай генарал Жэлігоўскі. Вось-жа ані Рыскі мір, ані заваяваньне Віленшчыны і „wcielenie“ яе дагэтуль ня прызнаны Лігай Нацый.

Вядома, што польскі ўрад з гэтым мамэнтам павінен вельмі рахавацца. Але польскі зоолёгічны нацыяналізм разьбіў усе пляны ўраду, які маніўся залагодзіць Лігу Нацый, даючы Віленшчыне аўтаномію, адкінутую так-званым Віленскім Соймам. Урад п. Панікоўскага перажыў востры крызіс і зрокся дараваньня гэтай частцы нашага краю аўтаноміі. Ды самы факт істнаваньня падобнага праэкту адыграў вельмі важную і для Польшчы некарысную ролю.

Справа вось у чым: калі для Вільні з ваколіцамі, дзе запраўды ёсьць многа палякоў, польскі ўрад лічыў патрэбнай аўтаномію, дык і пагатоў патрэбна яна для чыста беларускай Горадзеншчыны, Навагрудчыны, Піншчыны, Дзісьеншчыны. Але апошнім Польшча і ня думае даваць ніякіх аўтономных правоў. Прадстаўнікі Лігі Нацый, якія гасьцілі ў Вільні, ня раз зварачалі на гэта ўвагу ў гутарках з беларусамі. Трэба думаць, што гэта узьнімецца і ў Генуі.

Калі-ж хто-колечы зачэпіць гэту справу, то трэба думаць, што і прадстаўнікі Савецкае Расеі ня будуць маўчаць аб тых крыўдах, якія дзеюцца над беларусамі пад Польшчай. Як ні благі для нас Рыскі мір, ён прымусіў Польшчу забясьпечыць беларускаму насяленьню ўсе грамадзкія і нацыянальныя правы. Але гэтага на дзеле Польшча не выпаўняе, і савецкія дэлегаты маюць магчымасьць рабіць паляком сур'ёзныя закіды.

Урэшце, зусім яшчэ няма ведама, ці Савецкая Расея дасягне ў Генуі таго, чаго жадае. Калі так, дык можна верыць у спакой на даўжэйшы час. Калі не — ну, тады для Савецкае Расеі кожная прычэпка будзе добрая, каб нарушыць мір, — а Ліга Нацый можа быць прымушана сур'ёзна задумацца над справай польскіх заваяваньняў на Ўсходзе.

Вось, мы і думаем, што аканчальнае „wcielenie“ Віленшчыны да Польшчы пастаўлена польскім урадам у залежнасьць ад таго, як пойдуць справы ў Генуі. Калі там будзе настрой, прыхільны для Польшчы, дык, ведама, аб справе Віленшчыны і Заходняе Беларусі наагул ня будзе ніякае гутаркі. Але, калі становішча Польшчы будзе пагражаць правядзеньню плянаў дужэйшых за яе дзяржаваў, дык „wcielnie“, як мо' справядліва прарочыць „Rzeczpospolita“, можа запраўды зацягнуцца на даўжэйшы час і можа быць пастаўлена ў сувязь з пытаньнем аб устройстве ўсіх Беларускіх зямель, забраных Польшчай.

Не дарма-ж у газэтах зьяўляюцца чуткі, што Ліга Нацый праэктуе пасылаць сваіх камісараў у-ва ўсе краіны, дзе ўзьнімаецца пытаньне аб „нацыянальных меншасьцях“... І мы йшчэ шмат чаго можам прыждаць!

N. N.

# Аснова яднаньня.

Некалькі дзён таму назад у газэце „Litwa“ зьмешчана была стацьця пад загалоўкам: Przyczynek do charakterystyki niektórych „Białorusinów“. У гэтай стацьці аўтар зварачае ўвагу літоўскага грамадзянства на кампанію людзей — бязсупярэчных расейскіх патрыотаў з б. старшынёй чарнасоценскага „Союза Міхаілд Архангела“ ў Горадні, прот. Корчынскім, на чале, якая засела ў Коўні і пад відам „беларусаў займае выдатныя становішчы ў літоўскім урадзе. Ходзяць чуткі, што адзін з іх лічыцца кандыдатам на становішча міністра беларускіх спраў, пакінутае ўрэшце сумнае памяці Сямашкам.

Мы вельмі рады, што ўрэшце само літоўскае грамадзянства зразумела, якую нягодную ігру вядзе гэная „истинно-русская“ кампанія ў хаўрусе з тэй групай літоўскіх правых дзеячоў, якія йшчэ перад сусьветнай вайной змаўляліся з прадстаўнікамі расейскага чарнасоценства (ў асобе пр. Філевіча і др.) супольнымі сіламі змагацца проці ўзросту беларускага нацыянальнага руху. Але, незалежна ад гэтага, закранутая ў літоўскай газэце справа прымушае сур'ёзна задумацца над пытаньнем аб беларуска-расейскіх адносінах у забранай палякамі часьці Беларусі наагул.

Бязумоўна, мы з агідай адносімся да ўсялякіх расейскіх „маскарадаў“, да тых расейскіх дзеячоў, якія, каб неяк раздабыць сабе смачнейшы кусок хлеба, п дшываюцца пад беларускае імя і ўсемі спосабамі вядуць барацьбу з беларускім рухам. Але мы цьвёрда пераканы, што ў гэты мамэнт інтарэсы так ці гэтак зьвязаных з нашым краем расейцаў вымагаюць аб'яднаньня невялічкай, пераважна інтэлігенцкай расейскай групы з моцным, ужо выявіўшым сваё аблічча пры выбарах у так-званы „Віленскі Сойм“, блёкам беларускай, жыдоўскай і літоўскай дэмократыі.

Палажэньне групы расейскіх інтэлігентаў у нашым краю пад уладай Польшчы зусім падобна да палажэньня ў нас палякоў пад уладай Расеі. У тыя часы, калі над усемі намі — „інародцамі“ — панаваў царскі кнут, праўдзівая польская дэмократыя йшла поруч з беларусамі, літвінамі, жыдамі, бо ўсіх нас злучаў агульны уціск з боку царызму і расейскіх нацыяналістычных імкненьняў, злучала патрэба даваць ім адпор злучанымі сіламі. Аднак, і тады маглі мы згаварыцца далёка ня з усімі палякамі: бо і ў тыя часы польскі нацыяналізм, сам уціскаены, імкнуўся ўціскаць і дэнацыяналізаваць наш народ — ня горш, чым гэта рабілі расейскія „ура-патрыоты“. І тады кс. Мацеевіч супольна з Замыслоўскім выступаў у Дзяржаўнай Думе проці беларусаў...

Углядаючыся цяпер у тое, што робяць у нас расейскія інтэлігенты, мы, нажаль, павінны адзначыць, што большасьць іх, відаць, спадзяючыся на паварот „старога таты“, ідзе як раз тэй самай дарогай, якой ішлі ў нас пад панаваньнем Расеі польскія эндэкі з ксяндзом Мацеевічам напарадзе. Яны, як калісь Замыслоўскі і К°, намагаюцца злучыць праваславіе ўвадно з расейскай нацыянальнасьцяй і аб'яўляюць вайну ўсім праваслаўным беларусам. Ізноў бачым спробы накінуць праваслаўным белару-

сам расейскую школу, а польская ўлада іх навет на гэта падбівае і ў гэтым падтрымлівае (асабліва ў Дзісьненшчыне). Ізноў вядзецца агітацыя, што, раз ты праваслаўны, значыць ты „рускі“.

Такая палітыка, ведама, лішне ўжо недальнавідная і аснована на тым перакананьні, што вось-вось, не сягоньня, дык заўтра, вернецца да нас расейскае панаваньне. Ці яно вернецца—гэта йшчэ вялікае пытаньне, а ўжо аб хуткім навароце такой Расеі, якая была некалі, зусім гаварыць нельга. Затое-ж перад усей расейскай нацыянальнай работай адкрываюцца ў нас дужа сумныя пэрспэктывы: у адзін пекны дзень выйдзе загад польскага ўраду зачыніць усе расейскія школы (адкрываныя цяпер замест зачыненых уладай беларускіх),—як гэта ўжо зрабіў навагрудзкі школьны інспэктар у мінулым лістападзе, на тэй аснове, што расейскага народу ў нас зусім няма. Такім чынам, расейцы, памагаючы паляком нішчыць беларускую школу, апынуцца ў палажэньні таго маўра, які, споўніўшы сваё дзела, можа йсьці сабе вон...

Калі мы гаворым аб зусім натуральным, бяз ніякае навет асаблівае ўмовы, яднаньні беларусаў, жыдоў і літвіноў дзеля барацьбы за свой нацыянальны быт, дык трэба заўважыць, што такое яднаньне адбываецца на аснове адсутнасьці якога-бы то ні было пасяганьня аднэй з гэтых нацыянальнасьцей не нацыянальнае істнаваньне другіх. На гэтым толькі грунце і магчыма аб'яднаньне „інародцаў“ пад нацыяналістычнай польскай уладай. Вось-жа, калі расейская інтэлігенцыя хоча—дзеля свайей-жа карысьці—злучыць свае сілы з другімі бяспраўнымі народамі пад панаваньнем Польшчы, яна павінна пазбыцца старых чарнасоценскіх лятуценьняў — аб еднасьці „православія й рускай народності“ аб „наварачаньні“ на расейшчыну праваслаўных беларусаў за тым толькі, што яны адное з расейцамі веры.

Расейскай інтэлігенцыі пад Польшчай, асабліва-ж на няпольскіх абшарах, пара сур'ёзна задумацца, з кім ёй ісьці ў змаганьні за свой быт: з «пануючай нацыяй», ці—з „інородцамі“. І калі яна выбяра апошнюю дарогу, дык ей прыдзецца прыняць і аснову яднаньня іх паміж сабой: прызнаньне і ўшанаваньне на дзеле нацыянальных правоў кожнага з гэтых народаў, у тым ліку і народу беларускага.

Ярашэўскі.

## „Свойскі“ гандаль.

Як часта, ідучы па вуліцы, напатыкаемся на гэткія шыльды: „польскае“ кіно, „польская“ страўня, „польскі“ рэстаран, „польская“ каўбасная, ці крамка з гарэлкай і г. д. Само праз сябе насовываецца пытаньне: дзеля чаго гандлярам мала напісаць на шыльдзе толькі: кіно, страўня, рэстаран, але яшчэ трэба дадатак што яны „польскія“? Пэўна-ж, што робіцца гэта не спраста, а што тутака ёсьць свае прычыны, якія даюць карысьць ўладарам гэтых прадпрыемстваў, бо, як ведама, ў гандлю ўсё робіцца выключна з мэтай зарабіць, як найболей грошы. Відаць, што і гэткія шыльды навешываюцца з мэтай атрымаць як найболей зыску, ці зрабіць гэта як найлягчэй. Магчыма, што гэткімі шыльдамі падкупаецца ўлада, сэрцу якой мілей шыльд з дадаткам „польскі“ чым, напрыклад, „беларускі“. Які небудзь ураднік на тоя што вычварае прадпрыемства, з дадаткам на шыльдзе „польскі“, глядзіць скрозь пальцы, а само прадпрыемства для яго зьяўляецца „сваім“. А тым часам гандляр падрабіўшыся пад нацыянальная пачуцьцё ураднікаў,—сьпякулюець на нацыяналізме і, часта, робіць сваё брыдкае дзела.

А ўлада тым часам з свайго боку ідзе ахвотна ім на спатканьне. Ня так даўно, напрыклад, мы чыталі загад № 509 Часовай Урадуючай Камісіі, які устанаўлівае, што ніводнае прадпрыемства ня можа адчыніцца без дазволу ўлады ці рэгістрацыі. Патрэбны канцэсыі для акцыянэрных таварыстваў, камісіённых дамоў; рэгістрацыі і атрыманьня асобых дазволаў ад Дэп. Гандлю і Промыслу для ўсіх таварыстваў, а ў тым ліку і для таварыстваў з кругавой парукай, гандлёва-камісіённых, пасрэдніцкіх, гандлёва-транспортавых, проста гандлёвых дамоў і, нарэшце, для ўсякіх прадпрыемстваў, якія складаюцца з капіталаў ня меняй чым двух асоб.

Што такоя значыцца зарэгістравацца, кожны ведае хто ўжо хоць адзін раз пераступіў парог урадовых установ у гэтых справах. А значыцца гэта што патрэба: 1) мець адпаведный шыльд фірмы (найлепш „польскі“, цярпіма „жыдоўскі“, кепска калі будзе „літоўскі“, але Божа барані „беларускі“); 2) заплаціць вялікія падаткі, аплачываючы імі ўсіх тых ураднікаў, якія будуць наняты рабіць гэткую рэгістрацыю (дадаўшы яшчэ для казны); 3) змарнаваць некалькі дзён выстайваючы ў пачакальнях і перацярпець усе мытарствы добра знаёмыя кожнаму жыхару Вільні, які ўжо меў за шчасьце хадзіць па урадовым установам і 4) ня быць ні літвіном, ні маскалём, а асабліва беларусам.

Так штучна творыцца зьнізу — з боку гандляроў і згары—з боку ўлады „свойскі гандэль“, гуртуючы „свуй до свэго“, бо пэўна-ж, што ўраднікі „сваім“ будуць выдаваць усякія „канцэсыі“ і дазволы ў першую чаргу і рабіць розныя „дахадзеньня“ аб асобах бяз польскага шыльду. Гэта з боку палітычнага.

А з эканамічнага боку гэткі загад мае той вынік, што уціськаючы гандаль і промысел, ён змушае гандляра і прамыслоўца, шчыльна учытваючых кожны свой крок і выдатак, перакладаць усе расходы і марнаваньне часу на цэны сваіх тавараў і вырабаў. Такім чынам усе гэтыя: рэгістрацыі, штэмплёвыя, пачакальні, шыльды і г. д. у канцы канцоў адбіваюцца на кішэнях усіх жыхароў, бо ім прыходзіцца за ўсе гэта расплачвацца.

Эска.

## Літоўскія справы.

— 6-га красавіка Пуанкарэ прыняў Літоўскіх дэлягатоў на Генуэскую канфэрэнцыю. На чале дэлегацыі стаіць Гальванаўскас.

— У Коўні пачалася канфэрэнцыя пры ўчасьці Нямеччыны, Расеі, Эстоніі і Літвы ў справах транзыту, асабліва транзыту тавараў нямецкіх у Расею і наадварот.

— Справа літоўскай валюты мае быць закончана ў працягу двух месяцаў. Замест остаў будуць выпушчаны літоўскія грошы.

## Беларусы ў Латвіі.

### Беларуская Бібліятэка ў Дзьвінску.

Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ пастанавіла адчыніць ў Дзьвінску Беларускую Бібліятэку-чытальню.

Памешканьне для бібліятэткі ўжо абарудавана; закуплены таксама вялікі лік кніжак.

Робяцца захады да далейшага зьбіраньня кніжак і да пераплёту іх.

### Беларуская школа ў Люцынскім павеце.

У м. Люцыну адчынілася першая беларуская школа. Лік вучняў яе шпарка павялічываецца і дайшоў ужо да 110 чалавек.

У павеце Люцынскім адчынена 31 беларуская школа, якія ўжо зацьверджаны і ўведзены ў школьную сетку пастановай Школьнай Рады.

### Беларускі спэктакль у Дзьвінску.

Дзьвінск, 20. III. 1922. Учора ў нашым глухім кутку, адбылася беларуская вечарына, якая была пастаўлена курсантамі тутэйшых Беларускіх вучыцельскіх курсаў. Вечары ў нас робяцца часта, але беларускіх вечароў—зусім было мало. Гэта тлумачыцца тым, што тутэйшая беларуская інтэлігенцыя не згуртавана.

Адчыненыя ў Дьзвінску беларускія вучыцельскія курсы аб'ядналі беларускую моладзь гор. Дзьвінска і павета. Выпадковыя акалічнасьці далі ім ў пэдагогі такіх выдатных дзеячаў па адраджэньню Беларусі, як М. Гарэцкі і Э. Будзька. З ініцыятывы і пад кіраўніцтвам Э. Будзькі і пры бліжэйшай дапамозе М. Гарэцкага і быў пастаўлены беларускі спэктакль.

На першы раз была выбрана дзеля гэтага заля гарадзкога клюбу, дзе курсанты згулялі на сцэне дзьве камэдыі: „Мядзьведзь“ Чэхова і „Чорт і Баба“—камэдыя Аляхновіча. Абедзьве камэдыі былі згулены вельмі добра. Апроч таго, выступалі курсанты з дэклямацыяй вершаў: „Ворагам Беларушчыны“ — Я. Купалы і „Здарэньне“ — Ф. Багушевіча. Далей, хорам курсантаў пад кіраўніцтвам п. Міровіча, былі сьпеты нацыянальны беларускі гымн, „Прыляцелі гусі“, „А ў бары, бары“ і інш. белар. песьні.

Агульнае ўражаньне было самае добрае, і публіка вітала громам воплескаў гульню артыстаў. Асабліва заслугоўваець увагі гульня курсантаў: Камаржынскага (Чор), Александровіча (Мікітка) і Габран (Марыська). Беларускія песьні, якія сьпяяў хор курсантаў, віталіся публікай доўгімі воплескамі.

Пасьля спэктаклю былі скокі пад гукі духавога аркестру. Вечар зацягнуўся да 3 гадзіны начы.

Аднак, выпадае адзначыць няпрыхільныя адносіны невядомых людзей, якія паздзіралі перад спэктаклям лічыць ўсе афішы, дзеля чаго жыхары гор.

## Разстрэл.

*(Ахвярую М. Гарэцкаму).*

Мільганула маланкай ў мазгу: „я памру!“
Й гасьне думка ў крывавым віру...

І ў самлейшае цела так смагла ўткнулі
Свае тварыкі гострыя кулі.

І ўпала яно. І пачуліся енкі
Каля цёмнай цаглянае сьценкі.

Раптам згасьлі ліхтарні... Задыміў папіросай,
Моцна лаяўся хтосьці з матросаў...

На сьнягу чырванела крывая пляма:—
Зачынілась жыцьцёвая брама.

5. III. 1922. Алесь Смаленец.



## Сёмуха.

Начыста зьмецены і вуліца, й двары,
Ля ганкаў і варот паўбіваты бярозкі,—
Сягоньня Сёмуха, сягоньня сьвята вёскі,
І весялейшае ня знойдзецца пары!

Пагожы, ясны дзень. У полі і ў бары
Паветра хмельны пах, сьмяюцца сонца коскі;
А ў хаце бел абрус, падходны блін—дар боскі,
І шчасьцем сьвецецца мужычыя твары.

І веру радасна я болей чым калі
У вялікі лёс і шлях Радзімае Зямлі.
Абуджаны народ быліц дазнае сказ,—

Узрушыць як адзін пры сьвеце бліскавіцы.
Прыйдзі хутчэй! Я жду цябе жаданы час!
Дай думам сёмушным і казкам дай дзяйсьніцца!

1921. Ўладзімер Жылка.

**Францішк Аляхновіч.**

## ШЧАСЬЛІВЫ МУЖ

камэдыя ў 4 актах.

(Глядзі № 10 (35)

**Магдалена.** Ну, не дзівота! Такі малады, прыгожы дый яшчэ—граф!.. Але, Фэлечка, памятай! Я свайму сказала, што ён масцца прыйсьці разам з табой, бо ён да цябе бадлабуніваецца... Дык-жа памятай, не прагаварыся, бо мой стары йзноу зробіць авантуру, пачне біцца лобам аб падлогу і маліцца да сьвятога Язэпа...

**Фэлька.** Ну, мяне ўжо вучыць ня трэба!.. А куды-ж ты яго паслала?

**Магдалена.** Падумай толькі: ён накупіў спіртусу і гарэлкі! Да чаго-ж гэта падобна? Прыдзе граф, а ў нас няма ані воднай бутэлькі віна! Ен езьдзіў усюды па заграніцах і мусіць гарэлкі ня пье.

**Фэлька.** Пье, ня бойся! Я яго бачыла, як ён на адным баль-маскарадзе лактаў пры буфэце гарэлку, дык аж нос пачырванеў.

**Магдалена.** Але ўсёж-такі хай ня думае, што мы нейкія хамы, якія нічога лепшага ня бачылі.

За сцэнай чутно званок.

**Магдалена.** О, нехта прыйшоў! можа ён! (пудрыцца). Фэлечка! ты, калі ласка, зрабі з гэтым парадак.. (паказвае на пакінутыя прылады мужа: місачку з мылам, брытву і г. п. ды бяжыць у сярэднія дзьверы).

**Фэлька** (кладзе ўсё на камодзе і пасьля таксама пудрыцца).

Зьява 4.

**Фэлька, Магдалена, Пышка, Шышка.**

**Магдалена** (уваходзіць; ціха да Фэлькі). Гэта прыйшлі Пышка і Шышка... А яго ўсё няма!

**Фэлька.** Мне казаў, што прыйдзе напэўна.

**Пышка і Шышка** (у другім пакоі выціраюць ногі, смаркаюцца, папраўляюць маншэты. Пышка з кветкамі, Шышка з цукеркамі).

**Магдалена** (да Пышкі і Шышкі). Прашу калі ласка сюды, бліжэй..

**Пышка** (уваходзіць). Перш-на-перш пазвольце павіншаваць вас, пані Магдалена, з імянінамі і... ўсяго найлепшага! (цалуе Магдалену ў руку).

**Шышка** (увайшоўшы). Віншую вас, пані Магдалена з імянінамі... і ўсяго найлепшага! (цалуе Магдалену ў руку).

**Магдалена.** Дзякую, дзякую... Сядайце, калі ласка.

Усе селі. Паўза. Раптам абодва—Пышка і Шышка разам пачынаюць казаць, але глянуўшы адзін на аднаго спыняюцца і саромюцца.

**Пышка і Шышка.** Пагода сягоньня харошая...

**Магдалена.** Што вы казалі?

**Пышка.** Гм.. таго... як яго?..

**Шышка.** Мы кажам, што пагода сягоньня харошая.

**Магдалена.** Ну... так сабе...

Паўза.

**Пышка.** Але бывае пагода лепшая.

**Магдалена.** У нас рэдка бывае добрая пагода... А вось заграніцай дык зусім што інакшае: там заўсёды добрая пагода, цэлы год цьвітуць ананасы, усе гавораць толькі пафранцузку: жэ ву зэм, жэ ву задор... а ў нас што?!

**Фэлька.** А ты скуль ведаеш?

**Магдалена.** Калі кажу, значыць ведаю.

**Шышка.** А ў мяне быў знаёмы, каторага брат раз езьдзіў заграніцу, дык ён казаў...

За сцэнай званок.

**Магдалена** (ціха да Фэлькі). Гэта мусіць ён!

**Фэлька.** Хіба што ён.

**Магдалена** (я. в.). Хадзі, разам яго спаткаем, бо мне аднэй неяк нялоўка... (да Пышкі і Шышкі). Паны выбачайце, пасядзеце адны... (выходзіць з Фэлькай).

Зьява 5.

**Пышка, Шышка.**

**Шышка.** Ты зусім ня ўмееш гаварыць з дамамі.

**Пышка.** Бо з ёю трудна,—бачыў, якая вучоная! Але з іншымі дык я нічога... магу...

**Шышка.** Але! з ёю трудна. Ты з ёю аб пагодзе, а яна табе зараз аб заграніцы—і пафранцуску!

**Пышка.** Француская мова страшэнна смяшная. Я раз чуў як французы гутарылі: было вельмі сьмяхотна.

## Бібліяграфія.

**„Наш Шлях“** — штомесячнік беларускага студэнцтва. Вільня. Цана 150 марак польск.

Журнал мае 28 старонак друку, Вокладка аздоблена малюнкам, дзе на на ўсходзячым сонечным крузе віднеецца Пагоня, да якое йдзе шырокі шлях. Думка выказана ў малюнку ярка, работа добрая. Што-ж да зьместу,—то журнал робіць ня саўсім прыемнае уражаньне. І дзіўна. Студэнты гэта — моладзь, чуласьць, інтэлект, гэта „у хуткім часе будаўнічыя свае беларускія, Бацькаўшчыны“, і разумеюць яны, што „ад зямлі беларускай, ад сялянскай, хлебаробнай гушчы ім нельга адарвацца ані на хвіліну“, а вось ад чытаньня журнала ўражаньне адваротнае. Ня чуецца зьвязку з сучасным жыцьцём, з тым масовым мужычым рухам, які нясе на сваім штандары разам з нацыянальным і сацыяльнае вызваленьне.

Помню на сьвяткаваньні апошніх угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі дзіўна й няпрыемна ўкалолі слух такія радкі з дэклямацыі „Над Нёманам“:

„Роднага краю тутэйшыя людзі
У скуру чужацкую лезуць жыўцом“.

і прычына гэтага ў тым, што дадзены выраз ужо ня сёняшні, а ўчарайшы. Учора ён меў сэнс і значэньне: ён адбіваў жыцьцё, сёньне-ж вартасьць яго толькі гістарычная. Такім самым учарайшым гістарычным аддае ад студэнцкая публіцыстыкі. Каму, напрыклад, патрэбна сёньне даводзіць, што „родная мова — скарб народу“—інтэлігенту—студэнту, масоваму чытачу-беларусу? Можа гэта калісь, калі рух беларускі захоўваўся ў невялічкіх гурткох, было й вельмі патрэбна. Цяпер гэта ўжо застаецца ззаду. Ды мала таго—папярэднія адраджэнцы з большай сілай і даказнасьцю краталі падобныя пытаньні. Успомніць хоць бы слаўную прадмову да „Дудкі Беларускай“ Мацея Бурачка. Дарэмная праца шукаць у журнале болек нашага жыцьця, й няма жаданьня паглыбіць, паказаць ва ўсёй велічы й магутнасьці беларускія нацыянальныя й грамадзкія ідэялы. Нарэшце й студэнцкае жыцьцё слаба адбіта. Есьць многа фактаў, якія вядомы нам, але аб якіх па невядомым прычынам маўчаць студэнты. Напр.: аб тым змаганьні, якое вядуць на унівэрсытэце беларускія студэнты з эндэкамі, аб спагаднасьці беларускай рабоце паступовага студэнцтва, аб закрыцьці беларускай катадры і многа іншага.

Між апавяданьняў многа слабых рэчаў. У гэтым напрамку асабліва выдатны твор Пакуцкага ў якім ён дужа многа плача і прымушае чытача пусьціць сьлязу аб няздольнасьці аўтара ў гэтым кірунку творчасьці.

Прыемна адзначыць моцныя, сьвежыя апавяданьні Л. Леўскага—„Казка Жыцьця“, „Гэтак было“. У іх чуюцца здаровыя думкі, радасны падход да Жыцьця і гэта дазваляе нам пакладаць на аўтара надзеі.

Надворны выгляд журнала прымушае жадаць шмат чаго. Слабая карэкта, прыпадковае, бяз ніякага пляну, размяшчэньне матэр'ялу. Якім чынам папала у сярэдзіну журнала хронькёрская справаздача аб студэнцкім вечары, а наймацнейшае з апавяданьняў у канец?

Канчаючы мы хочам сказаць, што матывам крытычнага разбору было шчырае жаданьне прыйсьці на падмогу студэнцтву ў яго сымпатычнай і добрай рабоце.

Спадзеваемся, што чарговы нумар пазбавіцца дэфэктаў і выйдзе багацейшым па зьместу.

**У—р.**

# Карэспандэнцыі.

**Беларускага гымна пяяць ня можна.**

З Віленскай сэмінарыі чугункаю ехала чатыры вучні на здачу „da Komisi Poborowej“. Ехалі яны ў аднэй каморцы і каб не хацелася спаць запяялі паціхонку песьню. А як яны былі беларусы ды й песьня была „Ад веку мы спалі“, бо й да гэтага часу ня чулі й ня ведалі, каб гэты беларускі гымн кім небудзь забаронена было пяяць. На іх безгалоўе ў суседняй каморцы сядзелі жандары і як толькі ўчулі песьню запыталіся ў іх дакумэнтаў, а на ст. Солы павялі да паліцыі. На пытаньне начальніка паліцыі, за што затрымалі вучні, жандары адказалі, што яны пелі „камуністычныя песьні“. Пачуўшы такую рэч вучні вельмі зьдзіվіліся, бо як жа гэта:— Беларускі гымн зрабілі „камуністычнай песьняй“. Начальнік паліцыі, паставіўшы вучняў у шых прымушаў пры ім запяяць „Ад веку мы спалі“, але тыя адмовіліся. Тады двух жандараў вывялі аднаго з вучняў—У. С. у асобны пакой і сказалі, калі ён не напіша ім на паперку гэтую песьню, то яму давядзецца вельмі дрэнна. І хоць ён хлапец ня пужлівы, але быў прымушан згадзіцца. Хлапцоў пратрымалі пору й на другі дзень выпусьцілі.

**У. С.**

**М. ГАРАДОК, Вялейскага пав.**

Зьдзекі пры самоўпраўленьні як пачаліся ад выбараў, дык ідуць ўсё далей ды што раз, то гарэй для нас жыхароў. У гмінную раду увайшлі за выключэньнем 4—5 асоб тыя, каторых хацелі паны. Старшынёй рады выбралі войта. На гэты факт трэба зьвярнуць асаблівую увагу. Нам здаецца, што рада павінна быць незалежнай ад войта. Тады-б можа хоць рада магла-б крыху памагчы бяднейшым, а цяпер войт так спеўся з панамі, што робіць, як хочуць паны, а на бедны сярмяжны народ ніхто не зьвяртае ніякае увагі. Прыкладам можа служыць даніна. Ня гледзячы на тое, што ў інструкцыі ясна сказана, што даніну павінны плаціць гаспадары паасобку, кожны за сваю гаспадарку з прагрэсыўнай скідкай, адкуль відаць, што у каго меняй зямлі, той мая большую скідку. Наш войт дадумаўся злучыць дробныя гаспадаркі у даўнейшы надзел. Старасты і прысутныя на сходзе жыхары з гэтай пастановай войта не згадзіліся. Тады войт сабраў раду і старост, абвесьціў, што ёсьць распараджэньне з Вялейкі узыскваць даніну толькі са злучаных вучасткаў і раздаў старастам раскладку. Трэба тут заўважыць, што шмат вёсак павінны плаціць за зямлі ім пріпісаную і каторае яны ніколі ня мелі. Цэлых вучасткаў у нашай гміне амаль няма саўсім, а дробныя павінны атрымаць згодна з інструкцыяй скідку, а злучыўшы дробныя вучасткі ў адзін надзел сяляне будуць плаціць балей. Цікава, чаму у суседнім Стаўпецкім павеце плацяць даніну кожны за свой вучастак. Зразумела, што войт хоча, каб мы памаглі плаціць тутэйшым панам, каторых у нас на бяду надта шмат. Найгорэй тое, што ня маем куды жаліцца, бо нашага голасу ніхто ня слухае.

**Сярмяжнік.**

**Вёска ГАНЬКАВІЧЫ, Забрэскай гміны, Валожынскага пав.**

Цяжка жыць у той вёсцы, дзе стаяць польскія жаўнеры. Часта здараецца, што жаўнеры абкрадаюць гаспадароў. У нашай вёсцы адзін гаспадар злавіў рэкрута, калі ён краў дрэва, і ня даў яму далей красьці. Тады прыйшоў да гэтага гаспадара капрал Станіслаў Савінскі і моцна зьбіў яго прыкладам, а нарэшце так піхнуў яго, што той паў на зэдаль бокам і зламаў сабе рабрыну. А калі гаспадар пайшоў жаліцца паручніку, то апошні абяцаў палажыць яго ў шпіталь на свой кошт, а капралу гэты выпадак прайшоў саўсім бязкарна.

**Жыхар з Ганькавіч.**

**БРАСЛАЎСКАЯ гміна, Браслаўскага пав.**

Гаспадаром Браслаўскай валасьці прыходзіцца адбываць дужа цяжкую падводную павіннасьць. Раней адбывалі толькі стойку пры гміне для разьездаў паліцыі ды павятовыхураднікаў. Ад Каляд-жа апрача таго, нам загадалі вазіць для іх дровы з лесу. Блізка штодзень падвод 15—20 гоняць па дрова за 15 в. ад Браслава.

Ня крыўдна было-бы, каб прыходзілася вазіць на патрэбы сваёй гліны—для гміннай канцэлярыі, для школ, але нам прыходзіцца дастаўляць дрова для ўсяго староства, для „камэнды паліцыі“, для пастарунку, для „людовага дому“ ды, навет, на прыватные кватэры да чыноўнікаў і паліцыянтаў. Так, 7 студня прывязлі пяць вазоў камэнданту паліцыі на яго кватэру у Заборныя Гумны і чатыры вазы рэфэрэнту адміністрацыі ў плебанію. 23 сакавіка 16 вазоў было прывезена на панадворак да Фрыдмана, ў якога кватаруюцца ўраднікі й паліцыянты.

І гэтак, са дня ў дзень, ня гледзячы на пагоду і дарогу гоняць чародныя падводы, прымушаючы пры тым браць часта непасільную для каня паклажу. 23-га сакавіка у Кастрыўскім лесе паліцыянт прымусіў падводы з Русьцягоў, Муража, Манастыра і Пушкароў узяць сажан сырога дрэва на 9 фурманак, ня слухаючы пратэстаў сялян, што яны і для сябе болей, як дзесятую часьць сажня на воз не накладаюць. Ад такой паклажы, ведама, надрываюцца і людзі і коні, псуюцца набэдрыкі і сані. А за усё гэта або плацяць па „цьвердай“ цане—375 марак за воз, або і нічога ня плацяць, як напрыклад за дастаўку дроў камэнданту паліцыі. Па вольнай цане за дастаўку такога возу ніхто меней 1500 мар. ня возьмець.

У першых днёх сакавіка быў загад усей гміне расчышчаць ад снегу вузкакалейную чугунку. Выганялі па аднаму чалавеку з кожнай хаты, а за работу і не падзякавалі.

Хацелі-б ведаць, ці ёсьць такі закон, па якому мужыцкія чародныя падводы павінны вазіць дрозы на кватэры да паноў рэфэрэнтаў і паліцыянтаў?

Цікава, чаму пан камэндант, беручы не адну тысячу марак у месяц, ня можа наняць сабе хурманку, каб прывязьці дроў з лесу, а чаму гэта мужык, жывучы на двох—трох дзесяцінах спуставанай праз вайну зямлі, павінен пракарміць сябе, жонку, кучу дзяцей, каня, карову, заплаціць падатак, адбыць стойку, ды яшчэ павінен прывязці дроў да печы пану камэнданту? Чаму Браслаўская гміна павінна вазіць дрова на усе павятовыя канцэлярыі, а чаму ня можна наняць падводы дабравольна за грошы з павятовага скарбу? Чаму мужык павінен, па „цьвёрдай“ цане—375 марак за воз, вазіць дровы на кухню „людовага дому“, а ў сталовай гэтага дому з мужыка бяруць па цане 200 мар. за абед?

**Падводчык.**

# Беларускае жыцьцё.

Чарговы нумар „Беларускага Звону“ выйдзе ў суботу 22 красавіка.

**ПАДЗЯКА.**

Бацькаўск. Камітэт І Віленск. Белар. Гімназіі шчыра дзякуець ўсім грамадзянам, склаўшым ахвяры па падпісных лістох на дадатковае кармленьне незаможных вучняў.

**Бацькаўск. Камітэт.**

**Ў Музык.-Драм. Гуртку.**

Беларускага Музык.-Драм. Гуртка просіць сяброў гуртка да 15 красавіка г. г. ўнесьці сяброўскія узносы, бо няўнесшыя да гэтага тэрміну грошай, згодна пастановы Рады Старшынь будуць лічыцца выбыўшымі з ліку саброў.

Сэкрэтар **Шчансновіч.**

**† Александар Бурбіс.**

З Менску прышла сумная вестка, што памёр ад сухотаў, адзін з старэйшых адраджэнцаў, відны работнік Белар. Соц. Грамады—Александар Бурбіс.

У пятніцу 7 красавіка ў царкве Сьв.-Тройцы па нябошчыку Ал. Бурбісу й Кузьме Тарэшчанку быў адслужаны малебен.

**Вечарыны з дабрачыннай мэтай.**

Ў аўторак 18 красавіка Бацькаўскі Камітэт пры Беларускай гімназіі ладзіць вечарыну на карысьць вучняў гімназіі у залі гімназіі Вострабрамская 9. Ідзе п'еса Ф. Аляхновіча „Дзядзька Якуб“ у 2-х актах з песьнямі і скокамі. Гуляць будуць вучні Беларускай гімназіі, якія ўжо ня раз радавалі нашае грамадзянства сваей стараннай ігрой.

У той жа залі ў нядзелю 23 красавіка Белар. Камітэт помачы ахвярам вайны ладзіць вечарыну, на якой будзе прадстаўлена драма ў 2-х актах „Лес шуміць“, інсцэнізацыя Ф. Аляхновіча па апавяданьню гэтай назовы Ў. Караленкі. Багатая па зьместу п'еса з удалай інсцэніроўкай будзе першы раз паказана на беларускай сцэне. У ігры прымаюць учасьце выдатнейшыя белар. артысты. Танцы на залі да 5 г. Даход на карысьць Камітэта.

**Закрыцьцё беларускай кнігарні ў Ашмяне.**

Беларуская кнігарня ў Ашмяне, адкрытая на запрацаваныя грошы ашмянчукоў, зачынена Польскай уладай, а кнігар Тарчэўскі арыштаваны і сядзіць у вастрозе на Лукішках.

**Справа вывезеных у Літву беларусоў і літвіноў.**

Як ведама, высылка 33-х арыштаваных беларусоў і літвіноў адміністратыўная улада ўчыніла бяз ведама і згоды прокуратуры. Дазвол на зварот з Коўні нідзе не агалошаны ані ў форме дэкрэту, ані асаблівым загадам, а дзеля таго кожны вярнуўшыся з Коўні павінен прайсьці фармальнасьці згодна закона. Што да справы пытаньня, зробленнага праз ген. Макржэцкага аб звароце высланых, дык прокуратура, як стаячая водаль палітыкі лічыцца толькі з параграфамі закону і дзеля таго ня можа не зрабіўшы дапроса сказаць, хто больш, ці менш вінават. Дапросы з арыштаваных былі недакончаны па загаду адміністратыўнай улады і далейшы дапрос прокуратура можа вясьці толькі у тых варунках, у якіх яны былі пачаты.

**(W. A. P.)**

**Збор ахвяраў на карысьць беларускага прытулку ў Вільні.**

Беларускі Камітэт помачы ахвярам вайны арганізоўвае 30 красавіка г. г. збор ахвяраў на карысьць прытулку.

Дзяцей у прытулку лічыцца цяпер 105 асобаў. Пры сучаснай дарагоўлі утрыманьне прытулку абходзіцца надта дорага. Грамадзянства заклікаецца да зьбіраньня ахвяраў на карысьць бедных беларускіх дзяцей-сірот.

Гурток беларускіх кабет і беларуская моладзь запрашаюцца прыняць жывы удзел у зборы. Запісь зборшчыц і зборшчыкаў пачнецца 20 красавіка і будзе адбывацца штодня ад 10 да 3 гадзіны ў кіраўніцы прытулку, гр. Ганны Кавэрды (Вострабрамская, 9).

**Камітэт.**

**На карысьць беларускага дзіцячага прытулку у Вільні** складзены ахвяры ў сакавіку месяцы:

| | |
|---|---|
| 1) Ад Гуртка беларускіх кабет . . . . . . . . . . . . . у тым ліку з прыбыткаў ад гімназіяльнага буфэту 13.430 м., ад лекцыі кс. Ад. Станкевіча 16.000 м., ад. буфэту на канцэрці 25 сакавіка 19.700 мар. і адначасная ахвяра 870 мар. | 50.000 м. |
| 2) Ад Амэрыканскай місіі баптыстаў . . . . . . . | 50.000 „ |
| 3) Ад вучняў І Віленскай Беларускай Гімназіі . . . . . | 20.000 „ |
| 4) Ад збору ў царкве Сьв. Тройцы на літургіі 25/III . . . | 8.030 „ |
| 5) Там-жа на пассіі 26/III у тым ліку ад Япіскапа Элеўфэрыя тры тысячы. | 4.083 „ |
| 6) Ад. п. Зінаіды Асіповіч | 8.000 „ |
| 7) Ад кс. Рамейкі . . . . | 5.000 „ |
| 8) Ад п. Вішнеўскага . . | 2.000 „ |
| 9) Ад вучняў гімназіі ОРЗ | 220 „ |
| Разам . . | 147.333 м. |

Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны складае шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам, якія дапамагаюць Камітэту утрымоўваць прытулак для бедных беларускіх дзяцей-сірот.

Старшыня Камітэту
**Сымон Рак-Міхайлоўскі.**
Скарбнік **Красінскі.**

31. III. 1922 г.

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна М.-Сьцяпанаўская, 23.
Рэдактар-Выдавец **ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.**